Год выдавецтва II. ЦАНА НУМАРУ 30 гр

# ПРАВАСЛАЎНАЯ БЕЛАРУСЬ

Царкоўна-грамадская і палітычная часопісь.
(Орган Праваслаўнага Беларускага Дэмократычнага Аб'яднаньня).
(Выходзіць 3 разы ў месяц).

№ 3(9) 28 СТУДЗЕНЯ. 1928 г.

| АДРЭС РЭДАКЦЫІ: | ПАДПІСНАЯ ЦАНА: | ЦАНА АБВЕСТАК: |
|---|---|---|
| Вільня, Гэтманская вуліца № 4, кв. 16. | на 1 месяц: 90 гр. на 3 месяца: 2 зл. 50 гр. | на 1-шай старонцы 30 гр., пасярод тэксту 25 гр., на апошняй старонцы 20 гр., за рад. пэтыта. |


Ад Рэдакцыі: З прычыны незалежнай ад Рэдакыцці 20-га гэтага месяца № „Праваслаўная Беларусь" выйсьці ня мог. Дзеля гэтага Рэдакцыя выпусьціла наступны замест 1-га лютага 28 студня. Наступны № выйдзе 10 лютага.

## „18"

23-га гэтага месяца праз упаўнамочаных Блекам нацыянальных меншасьцяў зложана была „ліста паньствовая" кандыдатаў да Сойму і Сэнату і **дастала нумра 18-й.**

Адгэтуль кожны Беларус павінен цьверда помніць гэты нумар, каб у дзень выбараў у Сойм 4-га сакавіка і у Сэнат 11-га сакавіка (марца) палажыць гэты нумарок за той адзіны спісак, які аб'яднаў у сабе ўсе беларускія партыі.

РЭДАКЦЫЯ.

# Блёк пад абстрэлам.

Блёк нацыянальных меншасьцяў бязумоўна цяпер з'яўляецца цэнтрам увагі ўсей выбарнай кампаніі. Аб ім больш за ўсё гавораць, аб ім больш за ўсё — пішуць у прэсе. Ён адразу больш за ўсе занепакоіў ураду, каторая выступае на выбары са сваім урадавым сьпіскам «вспулпрацы с жондам», які адчувае сябе канкурэнтам «Блёку». Як стварэньне Блёку занепакоіла кругі, блізкія да ўраду, ясна відна з таго, як яны сталі навязываць кантакт і налажываць сувязі з усімі тымі групамі, якія маглі-б, хоць троху адабраць галасоў ад Блёку. На што ужо перад гэтым для ўраду была ненавісная «Грамада», але калі дайшло да «Блёку», дык нават і «Грамада», палепшала. У блізкім да ўрадавых кругоў «Kurjerze Wileńskim» сталі аб «Грамадзе» пісаць с прыхільнасьцьцю, нібы гэта сьць толькі адзіная ўзапраўдная нацыянальная партыя. У адказ на гэта «Наша Праца» — орган ідэйна зьвязаны з б. «Грамадой» перайшоў на ўгодаўскі тон і нават пісаць стаў у дусе «паньствовай» партыі: «На ўсім абшары нашай Рэчыпаспалітай і г. д.» Спэцыяльна для барацьбы з блёкам утвараюцца ўсе новыя і новыя «беларускія» групы і партыі, яўна субсідыяваныя, з адзінай толькі мэтай разбіцьця Блёку. З мэтай адбіць ад Блёку праваслаўных беларусаў, як мы ведаем, створаны так званы «праваслаўны сьпісак» з былым уніятам «Філіпам Марозавым» на чале. Ідуць і простыя уцісканьні Блёку ад мяйсцовых улздаў. У гэтым нумары надрукаваны ліст, прысланы да, «Сялянскай Нівы» п. Грышэлем, якога па дарозе дамоў, як ён піша, са зьезду, скліканага Белар. Аб'яднаным Выбарным Камітэтам, паліцыя арыштавала біла, амаль не да страты прытомнасьці і пратрымала пяць дзён як вязьня. У Навагрудку робіцца іначай: там проста запячаталі нанятае для Акружнага Беларускага Выбарнага Камітэту памяшчэньне пад тым прэдлогам, што яно яшчэ не агледжана тэхнічнай камісіяй і можа быць «небясьпечна» для тых, хто там памяшчаецца. Дзякуем за апеку, дзіўна толькі чаго-ж гэта магістрат і паліцыя места стала так апекавацца аб здароўі беларусаў, але нічога не рабіла раней калі там жылі не беларусы. Ціж так нас адных любяць?

Галоўная газэта, якая абслужывае «Блёк нацыянальных меншасьцяў, «Сялянская Ніва», бязлітасна канфіскуецца. Сканфіскаваны ўжо нумары 71, 81, 92, 95 за мінулы і 4 6 і 7 за гэты год.

Ад блізкіх да ўрадавых кругоў польскіх газэт ня адстаюць газэты і «дзеячы» і беларускія, блізкія да тых самых кругоў. Аб гэтых «беларускіх» газэтах і асобах ня варта было і пісаць калі-б тую ілжу, якую стараюцца яны распаўсюджываць, ня перэхватывалі і передруковывалі і іншыя газэты, як польскія, так расейскія, а нават і беларуская газэта «Думка Працы». Пісалі ў іх аб „Блёку", што ён „аддае тры мандаты літоўцам па аднэй Віленшчыне", што „Блёк" разваліваецца, што на з'езд „Блёку сабралася толькі 60 чалавек. Паўлюкевічаўскае „Слова"

надрукавала, што з'езд наш дужа абурыўся, калі на ім Сабалеўскі няпрыхільна адазваўся аб „доктары“ (аб ім ня было нават і мовы), а яшчэ лепш зрабіў Мамонька. Калі яго ня пусьцілі на з'езд, дык ён напісаў у расейскай і ў польскіх газэтах, быццам ён ударыў Ярэміча па твары. Няма чаго і гаварыць, што і гэтага ня было, бо Ярэміч зусім і ня падыходзіў да Мамонькі. Але-ж з гэтага відаць, як гэтым дзеячам хочацца нават таго, каб аб іх хоць троху пагаварылі, што і „яны вядуць барацьбу з Блёкам“ („ай моська!“).

Гэныя-ж выдумкі паўтарае і „Думка Працы“.

Гэтая газэта нават і сама яшчэ ня акрэсьліла таго, за якую-ж партыю, ці беларускую группу, яна будзе стаяць і змагацца ў часе выбараў, а ужо, на жаль, стараецца разбурыць тую нацыянальна-аб'яднаўчую працу, якую распачаў Блёк сярод беларускіх партыяў.

Былая «Грамада», ідэалогію якой панасьледству пpыняла «Думка Працы», сама ня утрымала свайго «единства» і пачынае раскладацца на некалькі групаў, пры чым адна з іх ідзе разам з польскай лявіцай.

Адсюль відаць, што з усіх беларускіх групаў толькі **адзін „Блёк“ вядзе безумоўна „аб'яднаўчую пуацу“**, што толькі ён мае у сабе маральную сілу стаць **вышэй ня толькі асабістых спрэчак і рахункаў**, але вышэй і партыйных інтэрэсаў.

Але чаго не разумеюць розныя партыйныя „дзеячы“ і „палітыканы“, тое добра сваім унутнаным пачуцьцём, як гавораць, інстынктам, разумеюць народныя масы. Адусюль з вёсак ідуць да нас найлепшыя весткі, што народу надаелі гэтая ўся ругатня і спрэчкі, што там пачынаецца стыхійны рух да блёку, ня глядзячы на нападкі на яго ад розных урадавых, паўурадавых і партыйна-варожых партыяў.

І мы крэпка верым што гэтае здаровае пачуцьце пераможа ў часы выбараў тую хвараблівую раскладаючую заразу, якую ў нашае жыцьце ўнясьлі партыйны антаганізм, партыйная заядласьць і асабістыя спрэчкі.

Да гэтага аб'яднаньня мы і заклікаем усіх бдларусаў, што ў партыйнай барацьбе ня страцілі ні свайго нацыянальнага духу ні агульна чалавечага маральнага пачуцьця.

**В. Васілевіч.**

# АДОЗВА

## Цэнтральнага Выбарнага Камітэту Блёку Нацыянальных Меншасьцяў у Польшчы.

У 1922 г. зладзілі мы першы раз у Польшчы, першы раз агулам у шматнародных дзяржавах Эўропы, выбарны блёк усіх г. зв. нацыянальных меншасьцяў. Закліканыя намі народныя масы аб'яднаных нацыянальнасьцяў згодна аддалі свае галасы за пастаўленых намі кандыдатаў. Правалілiся натугі праціўнікаў блёку, не памагла агітацыя партыяў, якія ўжывалі ўсіх спосабаў, каб нас між сабой пасварыць, каб завастрыць нацыянальныя антаганізмы. Блёк перамог усюды, дзе нацыянальная сьведамасьць, дзе сьведамасьць неабходнасьці супольнага змаганьня за належнае кожнай нацыі парляманцкае прадстаўніцтва процiставілiся ўсялякім дражненьням, ашуканству, або шыканам.

За нашым прыкладам пайшлі іншыя нацыянальныя меншасьці ў іншых дзяр-

жавах, ня вылучаючы так-жа і польскіх меншасьцяў. Думка аб супольным змаганьні за права свабоднага разьвіцьця ўсіх уцісканых нацыянальнасьцяў нашла водгук у цэлай Эўропе і давяла да зарганізаваньня Кангрэсаў, якія тры разы ўжо мелі нарады ў Жэнэве.

Цяпер, калі ўзноў становімся да выбараў, узнаўляем наш тэхнічны выбарны саюз і заклікаем нашыя народныя масы да галасаваньня на сьпісак усіх няпольскіх нацыянальнасьцяў, якія змагаюцца за свае нацыянальныя і грамадзянскія правы. Выбарны закон 1922 году, які нас усіх крыўдзіў, не даючы нам магчымасьці выбраць адпаведна да нашага ліку парляманцкай рэпрэзэнтацыі, астаўся нязьменены. Агулам палажэньне нашых народаў ня вельмі перамянілася ад часу заключэньня першага выбарнага саюзу. Падставовыя дамаганьні ня ўзятыя пад увагу. Змаганьні за належныя нам правы ня могуць быць спынены. А ў гэтым змаганьні наша аб'яднаньне ў адзін магутны выбарны блёк выяўляе аб сіле нашых прадстаўніцтваў, якія будуць вясьці гэта змаганьне.

На вестку аб узнаўленьні нашага выбарнага саюзу ў польскім грамадзянстве паднялася бура, у прэсе і паміма яе не жалелі нам перасьцярогаў і пагрозаў. Адных прабуецца настрашыць, іншых здабыць абяцанкамі. Блёк мае быць разьбіты раней, чым прыступіў да працы. Ня прызнаецца нам права злучаньня да супольнага змаганьня за здабыцьцё належных нам парляманцкіх рэпрэзэнтацыяў. У самым аб'яднаньні бачыцца праступак проціў дзяржавы, бо на нашым аслабленьні, якое здасьць нас на ласку і няласку пануючай большасьці, мае быць збудаваная далейшая палітыка дзеля нас. Усім грамадзянам дазваляецца лучыцца ў выбарныя блёкі, толькі ня нам. Ёсьць гэта яшчэ адзін довад, што ўважаюць нас за грамадзян другой катэгорыі, якія не павінны карыстаць з правоў, належных грамадзянам пануючай нацыі. Ёсьць гэта праява тэй няшчаснай думкі, якая дзеліць грамадзян на ўціcканых і ўціскаючых, а якая была і ёсьць жаралом сварак і няшчасьцяў.

Мы змагаемся за бязумоўную роўнасьць усіх грамадзян у Дзяржаве. Мы мкнёмся да спыненьня ўсялякага нацыянальнага ўціску. Будучы Сойм мае пераглядзіць абавязуючую Канстытуцыю, дык павінна кожная нацыя паслаць у Сойм і Сэнат па магчымасьці найсільнейшае прадстаўніцтва, якое-б стаяла ў абароне ідэалаў і інтарэсаў кожнай нацыі.

У імя гэтых клічаў узнаўляем Блёк Нацыянальных Меншасьцяў. Мы пэўны, што пойдуць за намі народныя масы нашых нацыяў яшчэ ў большай меры, чым у 1922 г. Заклікаем да змаганьня проціў крыўды, проціў нядолі. Усе, як адзін, у рады! Няхай ніхто ня дасца запужаць, ані зьвясьці пустымі абяцанкамі. Няхай кожны ведае, што тут справа аб лёсе яго народу, аб магчымасьць вядзеньня змаганьня з добрым вынікам за правы жыцьця народу, да шчасьця, да свабоднага разьвіцьця.

Далоў з уціскам народным, з крыўдай народаў!

Да змаганьня за належнае нам парляманцкае прадстаўніцтва!

**Цэнт. Выб. Камітэт Блёку Нац. Меншасьцяў у Польшчы.**

Ад імя Беларусаў:

Б. пасол **Ярэміч**, б. сэн. **Баргдановіч**, **Янка Пазьняк** віцэ-старшыня Ц. К. Беларускай Хр. Дэмакрацыі.

Ад імя Украінцаў:

Др. **Дмытро Левіцкый**, старшыня У.Н.Д.О., б. сэнатар **Міхайло Чэркавскый**, б.пас. **Павал Васыньчук**.

Ад імя Немцаў:

б. сэнатар **Эрвін Гасбах**, б. пасол **Робэрт Пеш**, был. пасол **Язеп Спікэрман**.

Ад імя Жыдоў:

б. пасол **С. Грунбаўм**, б. пасол **Максымільян Гартгляс**, Др. **Цэмбах Шабад**, старшыня Н. Д. Пар.

# Нацыянальный Склад Блёку.

(прычыны не ўваходу літоўцаў і расейцаў).

У другой палове гэтага месяцу аканьчальна выясьніўся нацыянальны склад „Блёку нацыянальных меншасьцяў. У склад „Блёку“ увайшлі: беларусы, украінцы, немцы і жыды. Такім чынам з меншасьцёвых нацыянальнасьцяў, насяляючых Польшчу, не ўвайшлі у „Блёк“ *расейцы і літоўцы.* Некаторыя з нашых чытачоў цікавяцца і пытаюць нас аб прычынах гэтага неуваходу, у наступным артыкуле мы і пастараемся выясьніць гэтую справу. Пачну з літоўцаў.

**Літоўцы**, як ведама яшчэ у першыя выбары байкатавалі выбары у польскі Сойм і пры выбарах 1922 году ня выстаўлялі сваіх кандыдатаў. У гэты раз с пачатку яны думалі прыняць удзел у „Блёку“ і нават увесь час вялі перагаворы з „Блёкам,“ хоць усетакі трымаліся ня рашуча,—ці ісьці, ці ня ісьці. На рэшце прынялі апошняе рашэньне. Гэта іх зусім унутраная справа, і мы дзеля гэтага ня хочам дужа удавацца у яе, але, пасколькі можна дагадвацца, галоўным повадам да гэтага паслужыла тое, што пры істнуючым раскладзе акругоў яны ня могуць, нават і у „Блёку,“ правясьці столькі сваіх прадстаўнікоў, колькі ім хацелася-б, паводле лічбы свайго насяленьня. Такім чынам адносна да літоўцаў асталося тое самае палажэньне, якое было і пры выбарах 1922 году. Гледзячы на гэты выхад літоўцаў чыста ідэова мы, разумеецца, павінны прызнацца, што на гэтым мы трацім, бо гэтым, як і неуваходам расейцаў, нарушаецца *поўнасьць* „Блёку“. Але, практычна разважаючы пытаньне, мы павінны сьцьвердзіць, што ад гэтага выхада мы ня трацім роўна нічога, бо літоўскія галасы ніколі не далі-б нам столькі мандатаў, скалькі-б мы павінны былі ім даць і колькі-б яны хацелі дастяць пры уваходзе у Блёк.

**Расейцы**, асталіся дужа незадаволенымі рэзультатамі выбараў у 1922 г., бо нарэшце яны правялі тады усяго толькі двух: аднаго у Сойм (Н. Сярэбранікава) і аднаго у Сэнат (М. Касьпяровіча). Гэтую лічбу яны уважаюць неадпаведнай колькасьці расейцаў у Польшчы і хацелі-б правясьці сваіх прадстаўнікаў больш. Але некатарыя з іх дзеячоў добра разумеюць, што пры раскіданнасьці іх насяленьня (галоўным чынам па гарадох) бяз „Блёку“ ім трудна правясьці і гэтулькі. Ведама, што дзеля гэтага яны ізноў стараліся увайсьці у яго.

Калі на рэшце гэта ня выпала, некатарыя з іх цяпер пачынаюць усю віну у гэтым зваліваць на нас. Так, напр., у № 7 газэты „Утро“ аўтарка стацьці „Единеніе“ папракае нас, што быццам *мы*, беларусы адмовіліся ісьці у Блёку разам з расейцамі.

Вось на гэта мы павінны адказаць ім, а разам і асьведчыць нашым чытачом, што як раз у гэтай справе менш за усё вінаваты беларусы.

Да расейцаў мы адразу сталі на зусім прынцыповы пункт гледжаньня і вытрымалі гэтую пазыцыю да канца. Мы прызнаем права кожнай нацыянальнай меншасьці на свабоднае самаакрэсьленьне і на змаганьне за свае правы, дзеля чаго зусім ахвотна працавалі з імі у папярэдніх выбарах у Сойм, ня гледзячы нават і на тое, што тады яшчэ было дужа і дужа шмат сярод расейцаў людзей (а ёсьць такія і цяпер), якія не хацелі зусім нават і прызнаваць істнаваньне беларусаў.

Як добра ведама віленскім расейцам і у гэтым годзе пры выбарах у „Раду мейскую“ у Горадні і ў Вільні беларусы ізноў стараліся злучыцца у супольнай выбарнай справе з расейцамі, і не беларусы вінаваты у тым, што, напрыклад, у Горадні, дзякуючы расколу сярод расейцаў, мы ня правялі ані воднага кандыдата.

Аднака-ж, ня гледзячы на гэта, калі паўстала думка аб уваходзе у „Блёк“ *русскіх*, з пачатку выбарнай кампаніі у Сойм і Сэнат, мы ізноў беларусы прыхільна аднясьліся да гэтага і выказалі зьвярнуўшымся да нас прадстаўнікам Р.Н.О. („Русское Народное Об'единеніе“) зусім адкрыта сваю думку: мы не уважаем іхнюю арганізацыю за вялікую сілу, дзеля чаго ня можам ім абяцаць

многа мандатаў, але прынцыпова стаім за уваход іх у Блёк. Ня маглі згаварыцца яны з Блёкам ня тут, а у цэнтры, у Варшаве, і пераважна ня маглі зыйсьціся з украінцамі.

Каб зразумець, чаму гэта так стварылася, трэба крыху глыбей высьвятліць гэтую справу, бо калі беларусы ніколі ня адмаўляліся ад тэхнічнага блёку з расейцамі, дык, праўду сказаць, шырокія беларускія кругі, а тым больш украінскія, ня мелі падставаў і дужа старацца аб гэтым уваходзе. Прычына гэтага ляжыць у тым, што у папярэдняй працы у Сойме і па-за Соймам за гэтыя гады ня наладзілася паміж намі і імі, ані цеснага кантакта, ані глыбокай сувязі.

Беларусы, як ведама, як толькі першы урад Сікорскага не апраўдаў іх даверыя, сталі адразу у *рэзкую аппазыцыю* да усіх наступных польскіх урадаў, вымагаючы ад кожнага ўраду рэальных довадаў таго, што ён ідзе на спатканьне нашых інтэрэсаў. Іншая зусім тактыка была у прадстаўнікоў расейскага грамадзянства (і гэта ня толькі у Сойме, а і па за Соймам). Яны ня вытрымалі гэтай аппазыцыі, і усё часьцей і часьцей сталі забягаць і да ураду, і да зьліжаных да ураду партыяў, спадзяючыся, што, чым часьцей яны будуць расьпісывацца у сваей ня толькі лёяльнасьці, але нават і прыхільнасьці, тым больш „міласьцей" атрымаюць ад ураду „з ласкі панскай". Як ведама гэтага ад ураду яны ня дачакаліся, як і мы, а нават дачакаліся яшчэ меней, бо іх перасталі прызнаваць ня толькі у жыцьці, а нават і на паперы (школьны закон), але за то яны страцілі кантакт ня толькі з намі, але і з іншымі меншасьцямі. Гэта выразна уперад за ўсё выявілася у тым, што прадстаўнікі расейцаў, напрыклад, не увайшлі у склад выдаўцоў меньшасьцёвай часопісі „Natio", якая стала выдавацца прысэймавымі меньшасьцёвымі арганізацыямі з спэцыяльнай мэтай высьвятленьня перад усім сьветам справы палажэньня нацыянальных меньшасьцяў у Польшчы. З гэтага вышла тое, што, калі паўсталі выбары, дык яны ужо адсталі ад іншых меньшасьцяў, — не аказаліся у той меньшасьцёвай арганізацыі („Natio"), якая павінна была-б служыць натуральным пераходам да „Блёку".

Яшчэ ясьней і выразьней гэта выявілася у справе рэлігійна-царкоўнай. А тут трэба заўважыць, што гэтая справа ёсьць як раз тое, што найбольш зьвязывае нас з расейцамі, бо і украінцы і беларусы так сама у падаўляючай большасьці праваслаўныя, як і расейцы.

З пачатку у Сойме у нас быў поўны кантакт і поўная спаўпраца з расейцамі. Нават і наша клюбовая царкоўная камісія была зложана супольна, — з прадстаўнікаў усіх трох клюбаў. Усе мы разам супольным фронтам змагаліся за свабоду царквы і зьнешнюю, і ўнутраную, усе змагаліся за яе кананічны саборны строй і стаялі у вострай апазыцыі да той афіцыяльнай іерархіі, якая гэты строй зьнішчыла. Але-ж прадстаўнік расейцаў у Сойме ня ўтрымаў гэтай царкоўнай пазыцыі і пайшоў на згоду з афіцыяльнай іерархіяй.

Так 3-га студня мінулага года закладаючы сваю партыю „Р. Н. О.", ён зьвярнуўся да мітрапаліта Дыанісія за благаславеньнем „для усьпешнай і пладатворнай работы Р.Н.О. па поводу праваславнай царквы і русскага народа" *).

Крыху пазьней ад Варшаўскага аддзела Р.Н.О. да мітрапаліта зьявілася цэлая дэлегацыя, якая у двухгадзіннай аўдыэнцыі гаварыла з мітрапалітам аб неабходнасьці між ім і Р. Н. О. „цеснага кантакту".

Трудна у такіх варунках нам падтрымліваць контакт з Р.Н.О.

Трэба тут, праўда адзначыць і тое, што сярод самага Р. Н. О. няма адзінай царкоўнай палітыкі. Віленскі аддзел гэтай арганізацыі стаіць зусім на іншым і многа лепшым грунце, чым цэнтр і аддзелы Р. Н. О. на Украіне. Ня гледзячы на тое, што сам закладчык Р.Н.О. стаў шукаць згоды з афіцыяльнай іерархіяй, віленскі аддзел у той самай справе трымаўся яшчэ *поўнага кантакта з беларусамі.* Прадстаўнікі яго разам з прадстаўнікамі беларуск. нацыянальнага Камітэту у канцы 1926-га года выпрацавалі і падалі ураду вядомы „мэморыял" **) аб палажэньні праваслаўнай царквы у Польшчы ў якім высьветлівалася запраўднае палажэньне і выстаўляўся рад трэбаваньняў, аб зьмене гэтага становішча.

*) Гл. „Воскресное Чтеніе" 1927. № 7.

**) Надрукаваны у № 1 і 2 „Правасл. Беларусь" за 1927 г.

А адначасна-ж з гэтым дэпутацыя варшаўскага Р.Н.О. з Хрэнніковым на чале ідзе да мітрапаліта і у працягу дзьвёх-гадзіннай аудыэнцыі гавора аб неабходнасьці *з ім* „поўнага кантакта“!

Наогул мы можам адзначыць, што віленскае Р.Н.О. трымаецца больш дэмакратычнаго і больш падыходзячага да беларусоў палітычнага і царкоўнага кірунку. Але-ж хто нам паручыцца за тое, што пасьля яно ня змушана будзе падпарадкавацца цэнтральнаму Р.Н.О. і ізноў зламаць фронт, бо мы ведаем, што і тады, калі Віленскае Р.Н.О. падало разам з намі мэморыал, яму дасталося ад цэнтру. А яшчэ раней на Львоўскім з'езьдзе там чуць ня выйшаў раскол з-за розьніцы адносін да беларусоў і украінцаў.

Там у цэнтры і у паўднёвых часьцях Польшчы, дзе расейскі элемэнт значней складаецца з памешчыкаў, іншы настрой пануе і у расейскіх арганізацыях. Няма нічога дзіўнага, што там яны не зыйшліся з украінцамі.

Але-ж і аб нашым віленскім Р.Н.О. мы ня можам быць пэўнымі, ці вытрымае яно сваю лінію, бо яно само залежыць ад цэнтру. Вось і нядаўна, ня гледзючы на былы мэморыал, яно, атрымаўшы прыказ з цэнтру, пачало ужо прыхільна пісаць аб афіцыальнай іерархіі (стацьця „Доктрынерства і аўтокефалія“), і толькі (відаць і ад „царкоўнай лёяльнасьці“ рэзультаты тыя самыя, што і ад „палітычнай“), утварэньне мітрапаліттам свайго „блёку“ ізноў пасварыло цэнтр. Р.Н.О. з мітрапалітам, і яно стала у царкоўнай справе на першы кірунак... добра, калі толькі не на... час выбараў.

Вось дзеля чаго мы не радзілі-б нікому, хто узапраўды стаіць за свабоду і саборнасьць царквы, дужа захапляецца астатнімі агітацыйнымі адозвамі Р.Н.О. а верыць толькі беларускаму блёку, які ні разу не зьмяніў сваю праграму.

Мы не баімся канкурэнцыі Р. Н. О., мы гатовы зразумець і яго папытку зрабіць пры помачы выбараў „падшчот галасоў“ сваім сілам, але калі яны узапраўды хацелі-б захаваць добрыя адносіны да нас, ня даваць і сябе захапіць передвыбарнай гарачцы. Агітатары РНО цяпер на усіх мітынгах нападаюць на былых беларускіх паслоў, гаворачы што яны нічога ня рабілі, а пякліся толькі аб сваім дабрабыце. Ці рабілі беларускіе паслы, ці не рабілі, але у гэтым яны далі і будуць даваць сваю справаздачу ня Р.Н.О., а беларускаму народу і толькі гэты народ мае права судзіць іх.

Трэба толькі сказаць, што як бы там ні было, усё-ж яны працавалі і шчырэй, і энэргічней, і афярней, чым прадстаўнікі расейцаў. Галоўны прадстаўнік іх далёка больш пастараўся аб сваім матэрыяльным дабрабыце, чым паслы беларускія. Але нам няма да гэтага справы.

Хай іх судзяць свае расейцы.

**Сябра.**

# 10-гадоў таму назад.

(З успамінаў аб працы Маскоўскага сабору ў часе бальшавіцкага перавароту).

(працяг).

У астатні раз я разсказаў чытачом, як у Маскве ў адзін і той самы час стварыўся і пераварот палітычны,—паўстала новая, бальшавіцкая улада, і адраджэньне царквы,—абнаўленьне яе кананічнага строю,—патрыяршага упраўленьня.

Паўсталі разам: і „бязбожнае царства“ і „Царства Божые“—царква.

Паміма ўсякіх палітычных пераконаньняў трудна было-б спадзявацца, каб гэтыя дзьве сілы праціўлежныя па свайму характэру не стаўхануліся ворража паміж сабой ў жыцьцю. Так яно і выйшла.

Мы бачылі з папярэдніх маіх разсказаў, што падчас братабойнай вайны на вуліцах Масквы паміж бальшавікамі і абаронцамі так званага „Часовага Ураду“ Сабор, хоць і быў ідэёва бязумоўна на старане астатніх, але на падставе прынцыпу няўмешацельства ў палітыку ня стаў адкрыта на старану тых ці іншых. Умяшацельства яго выя-

вілася толькі ў змаганьнях за тое, каб памірыць якнайхудчэй ваюючых, каб спыніць праліцьцё крыві.

Але-ж, калі змагла ўтрымаць нейкі неўтралітэт царква, трудна было таго-ж чакаць ад савецкай улады, якая паводле самой сваей праграмы павінна вясьці барацьбу з рэлігіяй, як „опіумам для народа".

У Маскве на гэта яна не адважылася адразу: відаць троху апасалася уплываў на народ Сабору, а пачала з Петраграда, гдзе, і самы пераварот стварыўся раней.

Пачалося з захвата Пятраградзкай Сінадальнай друкарні, пасьля перайшло да цэркваў,—уперад дамовых і дварцовых.

Так захоплена была падчас багаслужэньня, а пасьля перароблена ў кіно дварцовая царква ў Гатчыне (26 в. ад Петраграда). Бальшавіцкі камісар прыказаў перарваць багаслужэньне ўсе сьватыні былі з яе вынесены ці разбураны.

Тое самае было зроблена з царквой у Новым Пецергофе і з царквамі ў дварце Анічкавым, Зімнім, з капліцай Спасіцеля ў доміку Пятра Вялікага. 13-га студня явіліся камісары і салдаты ў Аляксандра-Неўскую лаўру і патрэбавалі здачы ўсіх грошаў і маемасьці і гэд. далей.

Народ, не выключаючы і рабочых, часта пратэставаў проціў гэтакіх гвалтаў, напрыклад рабочыя району № 1 у Кранштаце і іншыя.

Пратэсты гэтыя троху ўстрымлівалі савецкую ўладу, хоць аднака зусім спыніць гвалтаў не маглі.

Але-ж гэта былі пакуль што не сыстэматычныя, а прыватныя, большменш выпадковыя, як гаворыцца „спорадычныя" выступленьня аддзельных агентаў улады.

Першае арганізаванае выступленьне проціў царквы бальшавіцкая ўлада рашылася зрабіць у канцы студня 1928 г.

Здаецца 23 студня яна выдала дэкрэт які афіціальна зваўся: аб „свабодзе совесьці і аддзяленьні царквы ад дзяржавы", а ў запраўды меў на мэці пазбавіць царкву усялякіх юрыдычных правоў і такім чынам магчыма яе аслабіць.

Паводле гэтага дэкрэту напрыклад праваслаўнае духавенства не звальнялася ад вайсковай павіннасьці, забаранівалася царкве рабіць самааблажэньне, зборы (§ 10), мець сваю ўласнасьць (§ 11). Царква пазбаўлялася права юрыдычнай асобы, уся яе маемасьць прызнавалася за ўласнасьць дзяржавы і г. д.

Гэты дэкрэт, фактычна пазбаўляючы Царкву магчымасьці лягальнага (законнага) істнаваньня, зрабіў вялікае ўражэньне і на сабор, і на народ, які ўжо ў Петраградзе выступіў з гарачымі пратэстамі і дэманстрацыямі проціў гэтых распараджэньняў улады. Народ зварачываўся і да Сабора, прасіў, каб Сабор адстаіваў царкоўные правы. На Саборы радзіліся аб тым, што і як зрабіць у такіх варунках.

Нарэшце пастаноўлена было арганізаваць урачыстае багаслужэньне (малебен) на „Чырвоным плацу" (Краснай плошчадзі) у бліжэйшую нядзелю (здаецца 31 студзеня)на, які дзен прапанаваць народу прыйсьці памаліцца з працэсіямі (крэснымі ходамі) з усіх маскоўскіх цэркваў, — каб такім чынам праваслаўны народ прыняцьцем учасьця ў гэтай урачыстасьці мог з аднаго боку выразіць сваю прыхільнасьць да веры і царквы, а з другой — неадабрэньне распараджэньням Сав. Улады.

Каб дадь знаць аб гэтым праваслаўнаму люду, рашылі накануне гэтага дня паслаць у-ва усі большыя маскоўскія цэрквы сяброў Сабору, якія павінны былі падчас вячэрняй службы („усеначнай") разтлумачыць народу бальшавіцкі дэкрэт і разам аб'явіць аб заўтрашняй урачыстасьці.

Мяне адкамандыравалі... я цапер ня памятую, як звалася гэта царква. Знаходзілася яна ў самым рабочым районе гдзе-сь, здаецца, нядалёка ад Крымскага моста. Царква новая, вялізарная (зьмясьцімасьць 4 с палавінай тысячы душ), збудаваная на грошы зьбіраныя праз саміх рабочых.

Яшчэ калі я ішоў туды на ўсеначную можна было відзець, як па вуліцах, рынках, бульварах, садох, дварох, а пераважна на царкоўных пляцох, — усюдах сабраўшыся кучкі народу абгаварывалі бальшавіцкі дэкрэт. Ішлі гарачыя споры, спрэчкі. Відаць было што дэкрэт гэты выклікай дужа вялікае абурэньне у людзей якія ня страцілі свае пабожнасьці, а разам і на усіх зрабіў вялікае уражэньне.

Царква яшчэ перад службай была набіта біткомъ. Відаць было, што народ ужо пачуў аб пастанаўленьні Сабору і чакаў, што будзе казаць яго пасланец.

Каб было добра чуваць у такой вялікой царкве мне паставілі аналой пасярод царквы на архірэйскай кафедры.

Перад „шэстапсалміем" я выйшаў на сярэдзіну да аналою ў сьціхары са сьвечкаў і пачаў гаварыць. Гаварыў я так: ня вялікая бяда для Царквы, што Царква адзяляецца ад дзяржавы, але бяда ў тым, што дзяржава адыходзіць ад Царквы, і ня толькі адыходзіць, але, нават, становіцца да царквы у ворожыя адносіны. Я раз'ясьніў бальшавіцкі дэкрэт па стацьцям, — што кажная абазначае, якімі скуткамі пагражае Царкве і заклікаў усіх прыйсьці заўтра на „Красную плошчадзь", каб памаліцца і выявіць сваю прыхільнасьць да царквы і веры. Я гаварыў горача, народ слухаў у поўнай цішы. Як удруг зьнянацку, адзін чалавек, па тыпу рабочы, якога я раней заўважыў нядалёка ад мяне, падчас маей прамовы гучна і крэпка выругаўся дужа няпрыгожымі славамі. Па зьнешней форме яго выразу ня можна было зразумець, да каго гэта ругацельства адносіцца, — ці да мяне, ці да Царквы, ці да бальшавікоў, але самы факт сквернаслоўя ў царкве ужо паказываў вялікае зьневаженьне сьвятыні. На адзін момант нібы усё прыціхла, а затым, я гляджу, як ад усіх бакоў, як па камандзе пацягнуліся да гэтага чалавека рукі і праз хвілю ён зьнік уніз сярод таўпы, нібы праваліўся скрозь зямелю. Я зразумеў, што яго могуць разарваць на кавалкі. Мігам я як быў у сьціхары са сьвечкай, кінуўся ў таўпу прама на тое мейсца, гдзе зьнік чалавек. Я зварачываўся на ўсе бакі крычэў што ёсьць сілы, прасіў усіх успакоіцца, але кругом падняўся такі нясусьветны шум і гул, што нічога ня было чуваць. Заднія рада нажымалі на пярэднія, некатарые не разумелі, што, здарылася, пыталіся ў другіх. Я бачыў што сярод гэтага гвалту ня чуваць і маіх слоў, што толькі відаць як я махаю рукамі і разяваю рот. Але усё-ж пад уплувам маіх стараньняў, народ троху раздаўся, і я забачыў гэтага чалавека ужо ляжачым на падлозе і адбіваючымся ад усіх і рукамі, і нагамі. Заўважыўшы, што народ адступіўся, ён стаў падымацца, але ізноў пацягнуліся да яго рукі і ізноў ён зваліўся на зямлю, ізноў я крычэў, прасіў, зварачываўся да ўсіх і нарэшці мне удалося вызваліць няшчаснага ругацеля. Я падвёў яго бліжэй да сябе і паставіў каля аналоя. Але-ж дальш гаварыць да народа ня было ні якай магчымасьці ад гулу, бо народ усе яшчэ ня мог успакоіцца.

На помач мне пасьпяшылі бацюшка і дыякон, якія дагадаліся голасна запець малітву („Пад Тваю міласьць"). Народ падхапіў. Пасьля запелі другую, трэцьцю і г. д., пакуль не настала ўспакаеньня, і я ня змог дакончыць сваё казаньне. Пасьля гэтага я вывеў майго ругацеля з таўпы і паставіў яго на перад перад радкамі вучняў нэйкай школы, каб аддзяліць яго ад народа. Нешчасны тросся ад страха. Пакуль я яго вёў, дык заўважыў, што ад яго нясе гарэлкай.

Скора пасьля гэтага для збіраньня ахвяр пайшлі з талеркай па царкве. Відаць, стараючыся здабыць прыхільнасьць да сябе з боку набожнага народу, няшчасны высыпаў на блюда ўсе свае грошы, што былі ў кашальку.

Пад канец усенашнай, баючыся пусьціць яго праз народ, каб ізноў не напалі на яго, я праз крылас і аўтар вывеў яго іншымі дзьвярмі на вуліцу і пусьціў на ўсе чатыры стараны: „Ідзі і больш не грашы".

Гэты выпадак зрабіў на мяне і на іншых прысутных вялікае ўражаньне. Ён паказаў з аднаго боку тое, да якой ступені ў чалавека можэ дайсьці ненавісьць да Царквы, а с другой, што большасьць народу астаецца моцнай у сваей прыхільнасьці да веры і Царквы і гатова бараніць яе перад той самой уладай, за якую можа яны учора яшчэ змагаліся і ваявалі на вуліцах Масквы.

(аканчаньне будзе).

**В. Багдановіч.**

---

# Пашырайце сваю часопісь сярод праваслаўных чытачоў.

# Беларускі Пасольскі Клюб

## і яго праца ў Сойме і Сэнаце ў 1922—1927 г. (аканчаньне).

Цяпер некалькі слоў аб **паасобных справах.** Недастача часу змушае мяне быць кароткім, і я напомню толькі аб некалькіх найважнейшых справах і галінах нашае працы ды і аб тым буду перадаваць толькі самае важнейшае.

Каб спрытней ішла работа, Белар. Пас. Клюб. падзелены быў на *камісіі.* Былі створаны камісіі зямельная, адміністрацыйная і самаўрадавая, юрыдычная, асьветная, царкоўна-рэлігійная. Кожная камісія была аддадзена пад кіраўніцтва таго з паслоў, ці сэнатараў, хто найбольш быў здольны, ці сьвядомы ў тэй працы. Напрыклад, мне была даручана камісія царкоўная.

Галоўным пытаньнем, якое больш за ўсё займала і нашую увагую і нашую работу, было **пытаньне зямельнае.**

Наогул трэба сказаць, што ня было такога моманту, такога выпадку ў Сойме і Сэнаце, калі была магчымасьць выступіць з зямельным пытаньнем і калі-б гэты момант не скарысталі бы паслы Беларускага клюбу,—не скарысталі-б каб ня заявіць аб сваіх балячках. Ужо не ад нас (бо ня было нашай большасьці) залежала, ці паставяць на парадак дня тое ці іншае пытаньне, але, калі яно ставілася кім-сь яшчэ, ці калі аб гэтым выпадала гаварыць (напрыклад на бюджэтных паседжаньнях), мы гаварылі і крычэлі бяз устанку. Найбольш вострым сярод зямельных пытаньняў было пытаньне *аб асадніцтве*, аб якім я ўжо выпадкова гаварыў вышэй. На гэтым пытаньні, калі ППС і Вызваленьне *галасавалі за асадніцтва*, мы больш за ўсё пераканаліся ў тым, што рана нам яшчэ мерыцца сілай сацыяльнай. На сацыяльныя партыі мы можам дзяліцца толькі паміж сабой у сваім прыватна-нацыянальным жыцьці, а навонкі павінны трымаць адзін фронт нацыянальны, бо такой тактыкі трымаюцца ў адносінах да нас польскія партыі і правіца, і лявіца.

Другім, ня меньш вострым пытаньнем, было **пытаньне школьнае,** якое так сама больш за ўсё брала у нас і асу, і працы, і змаганьняў. Біліся мы за гэтую родную школу і ў інтэрпеляцыях, і ва ўнёсках, і ў камісіях, і на трыбуне і нават па міністэрскіх парогах! І кожны наш крок ўсё больш і больш пераконываў нас у тым, што там гдзе стаіць пытаньне нацыянальнае, там мы для польскага ўраду — толькі матэр'ял для полёнізацыі.

Найбольш вострым момантам тут было правядзеньне праз Сойм у лютым мес. 1925 года так званага *школьнага закону.* Вы чулі ведама з прэсы сучасьнай, што мы, меншасьці *галасавалі проці гэтага закону.* Так! — Наўмысьля галасавалі пропі яго, бо ведалі, што ён праводзіцца зусім не для таго, каб увадзіць яго ў жыцьце, а толькі на паказ Эўропе, каб паказаць від, быццам у Польшчы меншасьці маюць поўную свабоду у карыстаньні сваей мовай ў школе. Мы галасна заяўлялі з трыбунаў, што мы ўраду ня верым, што школы нам ўсё роўна не дадуць. Нас тады лаялі і правіца, і лявіца, і пераконывалі, і абяцалі, што калі толькі будзе закон аб родных школах,—будуць і школы.

Але-ж, як толькі закон прайшоў, мы паслы Сойма і Сэната зрабілі ўсе, каб скарыстаць яго для роднай асьветы. Быў дадзены тэрмін для заяваў — толькі адзін месяц, сакавік. У самую вясеньнюю распуціцу у сакавіку месяцы мы ўсе паслы і сэнатары Беларускага клюбу, падзяліўшы паміж сабой усю польскую тэрыторыю Беларусі, пусьціліся *аб'яжджаць яе, выясняючы народу, як трэба скарыстаць з гэтага закону*, як тварыць заявы і г. д. Нямнога нас тады было, асталося толькі 10 чалавек, не заўсёды магчыма было і адлучацца ад працы ў Сойме, але ўсё-ж мы пасьпелі аб'ехаць значную частку Беларусі, у рэзультаце чаго зложана было беларускім сялянствам да школьных інспэктараў 430 заяваў на беларускую школу. А цяпер запытаюся я у вас, грамадзяне, — колькі школаў вам далі?.. (галасы: ні воднай!)

Так, ні воднай!

Вось вам яшчэ мацнейшы довад таго, што ня настаў яшчэ для нас час

дзяліцца на вонкавы фронт „па сацыяльнаму прызнаку“, што гэта яшчэ пакульшто лішняя роскаш для нас, ды і патрэбы вялікай у гэтым ня відаць, бо паноў у нас беларусаў няма, а інтэлігэнцыі так мала, ды і тая, якая ёсьць, калі ня сядзіць у вастрозе, дык працуе разам з народам!

У камісіі **адміністрацыйнай** галоўная праца ляжала 1) у барацьбе *за самаўрады* і 2) у барацьбе проціў безканечных *надужыцьцяў адміністрацыі.* Ня гаворачы аб выступленьнях у гэтых справах з трыбунаў сэймовай і сэнацкай, які можа часткова вам ведамы з прэсы, трудна, здаецца, пералічыць той безканечны лік заяваў, пісьмаў, пратэстаў і г. д. якія ў гэтых справах падаваліся, да ўраду, да Сойму і Сэнату, да прэсы. Адносна да надужыцьцяў у турмах нават выязджала ўва ўсі турмы асобая сэймовая камісія ў склад якой уваходзіў ад Беларусаў п. Ярэміч. Маю сьмеласьць думаць што вядомыя палепшаньня ў гэтым сэнсе ўсе-ж вы адчуваеце на мяйсцох.

**Юрыдычнай камісіі** заўсёды прыхадзілася ня толькі даваць парады, складаць заявы і інтэрпэляцыі, але часта і дапамагаць сваім Беларусам у справе арганізацыі судовай абароны, калі каму здавалася няшчасьце ў справах палітычных сесьці на лаўку абвінавачаных, а такіх вы ведаеце ў нас было і ёсьць дужа і дужа многа.

На рэшце — пытаньне **царкоўнае.** Праца ў гэтай галіне жыцьця была даручана мне, як чалавеку найбольш знаёмаму з гэтымі справамі. Праца тут зьмяшчалася ня толькі ў тым, каб бараніць тот ці іншы царкоўны будынак, ці зямлю, ці асобу, а ў тым каб змагацца за ўнутраную свабоду царквы. Мы стаялі і стаім за тое, каб *царква ня залежна была ад уплываў дзяржаўнай ўлады,* каб яна была выключна духоўным інстытутам, бо так і ёсьць: жыцьцёвае значэньне царквы і рэлігіі ў тым, што там як у нейкай духоўнай кузьні павінны выковывацца *духоўныя падставы нашага жыцьця і нашай дзеяльнасьці.* Бяз гэтых духоўных падставаў жыцьцё нашае утрачывае ўсялякі сэнс, усялякае значэньне. Мы відзім што, калі не дае гэтага царква і рэлігія, дык чалавек усё-ж такі імкнецца замяніць яго чымсь іншым, нейкімі вышэйшымі ідэаламі.

Яны патрэбны нам гэтыя вышэйшыя ідэалы, бо яны кіруюць усім нашым жыцьцём, неяк асьвятляюць яго і *ужацняюць* сваім высокім сэнсам *усю нашу дзеяльнасьць і працу.* Ня дарма Немцы гавораць: „мут ферлёрэн—аллес ферлёрэн“, г. ёсьць „калі страціў дух, — усё страціў“. А калі Царква, я сказаў, гэта ёсьць каузьня для выковываньня вышэйшых падстаў нашага жыцьця, *кіруючых нашым жыцьцём,* то ясна, што яна павінна быць незалежна ад дзяржавы.

Урады Польшчы, наадварот заўсёды імкнуліся падпарадкаваць Царкву і яе прадстаўнікоў, духавенства, сваім палітычным мэтам. Адзін такі „ужэнднік“ з міністэрства асьветы пад час маей інтэрвэнцыі ў царкоўнай справе так і сказаў: „nam mało tego, żeby duchowieństwo prawosławne było lojalnym wobec panstwa; nam trzeba żeby oni byli *ajentami państwowymi*“.

Вось з гэтымі імкненьнямі ураду нам, і перадусім мне, і прыхадзілася весьці барацьбу, — барацьбу за тое, каб нашы духоўныя былі не „państwowymi ajentami, а выключна *„ajentami Chrystusowymi“*.

Не магу тут не адзначыць таго, што калі мы ў гэтай барацьбе дужа пацярпелі шкоды, то вінават у гэтым ня адзін толькі польскі жонд (жонд ведама шукае таго, што уважае за патрэбнае *для панства*), але яшчэ больш вінаваты тыя з духоўных, хто за „чэчэвічную пахлёбку“ прадалі гэтую свабоду Царквы.

Першым вінаваты у гэтай здрадзе царкоўнаму дзелу нябошчык мітр. Георгій, якога пасьля (нябывалая справа ў царкоўным жыцьці!) забіў, як вы чулі архімандрыт Смарагд. Няхай першаму Бог прасьціць яго грэх здрады, як і другому грэх яго забойства за тую муку, якую ён перажыў, бачучы як прадаецца царкоўнаная свабода!

Каб гэта ясна было ў чым тут справа,—вось невялічкі прыкладзік: Прыязджае да мяне ў сэнат дэлегацыя ад сялян аднэй парахвіі гарадзенскай эпархіі. Просяць бараніць іх, бо ў іх зачынілі іхны прыход. Ідзём разам з імі да міністэрства. Пытаемся. А там раз’ясьняюць, што на зачыненьне гэтай парахвіі згадзіўся сам архіерэй — вось і подпіс яго пад згодай.—Як так? А чаго-ж не запыталіся гэтага ў парахвіян?—„A co oni wiedzą ci parafijanie? Oni sami nie wiedzą, co

im potrzebna". Я пачынаю даказываць, што там парахвія быць павінна, што гэта далёка ад іншых парафіяў і гэдак далей. — Co pan mnie mówi. Czy pan Bohdanowicz więcej wie, niż sam biskup, który *ot Boga postawiony*" (калі-ж бы ад Бога, а то ад сьвецкай улады!). Вось і ўся справа. Калі-б бараніў справу архіерэй, — гэта было-б надужыцьцем і можна было-б бараніць яе і ў Сойме. А так... надужыцьця няма. Наадварот: „згода" і ўсё у парадку!

Падпарадкаваўшыся самі ўладзе сьвецкай, вышэйшая іерархія падпарадкавала ей і ніжэйшае духавенства. Безперастанным страхам перад уладай сьвецкай, яна давяла гэтяе духавенства да таго, што змусіла яго і парахвіянамі кіраваць ледзьве ня пры помачы паліцыянта. Так выходзе патроху з царкоўнага жыцьця яго хрысьціянскі царкоўны дух а гэта адхіляе народ ад царквы, бо ён ня знаходзіць там таго, чаго шукае.

Мы тут, наадварот, імкнемся каб царкву зрабіць справай усенароднай, каб кожны адчуваў царкоўную справу *сваей* і працаваў у яе справах як у *родныхъ*, сваіх з усею шчырасьцю, сьвядомасьцю і сумленьнем.

Ня магу тут ня адзначыць таго, што гэтыя царкоўныя справы шчыра баранілі у Сойме паслы ня толькі праваслаўныя, а так сама і каталікі.

Цяпер яшчэ адна справа: **унутраныя адносіны у Пасольскім Беларускім Клюбе.** Гэтыя адносіны не хацелася бы нават вынасіць на трыбуну, але у гэты час, час справаздачы, мы павінны быць зусім шчырымі перад вамі, грамадзяне.

З пачатку праца наша йшла дружна. Праўда, былі невялічкія спрэчкі адносна да тактыкі, дзеля чаго мяняўся нават склад прэзыдыўму клюбу, але дальш гэтага ня йшло. З 1925 году пачалася нейкая разбежнасьць, частка паслоў стала часьцей і часьцей закідаць другой, быццам тая ня досыць энэргічна працуе сярод народу, што на сэймовай трыбуне усё роўна нічога ня зробіш і г. далей, і стала імкнуцца да стварэньня асобнага клюбу. Колькі разоў паднімалася гэтае пытаньне, і некалькі разоў удавалася усёж-такі адстаяць нашу еднасьць. Мы стаялі на становішчы тым, што, калі вам трэба, — тварыце якую хочаце партыю, але не як асобны клюб, а як фракцыю таго самага клюбу. Каб ўсё-ж такім чынам нашаму клюбу астацца адзіным, прадстаўніком беларускага народу. Так зрабіў, напр. Сялянскі саюз, які стварыўшы партыю аднак ня аддзяліў сваіх беларускіх паслоў ад клюбу. Думаю, што гэта на рэшце удалося-б стварыць і з „Грамадой", калі-б тут ня умяшаліся зусім чужыя уплывы і чужая, зусім ня беларуская рука у Варшаве і хоць і ня чужая, але цяжкая рука у Вільні. І стварылася гэта як раз тады, калі была магчымасьць ня дзяліцца, а нават павялічыць свой клюб беларускімі пасламі з „Вызваленьня", якія даўно ужо разчараваўшыся у прыхільнасьці гэтай партыі да беларусоў, імкнуліся ўвайсьці у беларускі клюб. Дзякуючы уплыву польскага пасла Ваявудскага прыймаўшага дзеяльнае учасьцьце у стварэньні „Грамады" і, галоўнае, выдзяленьні яе з Беларускага Клюба, прыняцьці ей зусім іншага кірунку, Клюб наш ня толькі пазбавіўся дзеяльных сяброў, але ня павялічыўся і тымі пасламі якія імкнуліся да нас з „Вызваленьня". Калі там у „Вызваленьні" стаўся поўны развал і ужо беларусы-паслы з яго прыйшлі да нас і гатовы былі упісацца у наш клюб, — польскі пасол Ваявудскі адгаварыў іх ад гэтага і, каб ня пусьціць іх да беларускага клюбу, утварыў сваю „Незалежную Хлопскую Партыю".

Так, чужыя рукі нас падзялілі, чужыя перашкаджалі і злучацца.

Але усе-ж такі я павінен заўважыць, што і пасьля падзелу з „Грамадой" там, у Сойме, мы працавалі з ей у поўным контакце, што да нацыянальных пытаньняў. Працавалі у гэтых пытаньнях можна сказаць як адзін клюб. Няпраўда тое, быццам сваркі з імі пачаліся у нас там у Сойме. Гэты наш кантакт захаваўся да самага канца і сьведчыць аб гэтым тое, як горача бараніў „Беларускі Клюб" арыштаваных паслоў з „Грамады". Вы напэўна чыталі у газетах прамовы паслоў Рагулі і Ярэміча, але трэба было бачыць тое, што было там у Сойме падчас паседжаньня аб выдачы паслоў, каб мець прэдстаўленьне аб гэтым. Ня там у Варшаве, а тут, у Вільне, знайшлася ня добра скіраваная воля, якая асабіста перасварыла усіх на-

шых „генералаў“, якая давяла нашае раздяленьне да становішча, пры якім стала не магчыма злучэньне у вярхох.

Але мы чуем і добра ведаем што гэта раздзяленьне не даходзіць да нізу, што там у гущах, у нізох сваіх беларускі народ адзіны народ, што ен імкнецца да адзіных *нацыянальна* - сацыяльных мэтаў і да гэгай адзінасьці да гэтага злучэньня у адзін фронт мы яго завем і верым што за гэтай ідэяй ен пойдзе!

Вось у кароткіх славах увесь агляд нашае сэймовае і сэнатскае працы за гэтыя пяць гадоў. Вы бачылі у якіх абставінах, у якіх варунках яна працякала, не магчыма нічога было рабіць, а ні у сэнсе законадаўчым, бо мы ня мелі патрэбнай для гэтага большасьці галасоў, ані у сэнсі уплываў на уладу выканаўчую, якая у большай часьці не хацела ісьці на спатканьне нашым інтэрэсаў. Нам аставалась ледзьве не адно, — крычаць, як сіла, аб нашых балячках, і мы крычэлі на увесь сьвет так, як толькі могуць крычэць ад болі. I усё-ж такі ня гледзячы на цяжкія варункі працы, гледзючы зусім бязстаронна, ня можна сказаць таго, каб яна асталася без яўных, рэальных рэзультатаў. Я ужо казаў у пачатку аб тым, **як пашырылася наша беларуская сьвядомасьць за гэтыя** гады, як пашырылася, беларуская культура. Хто аддае сабе справаздачу у гэтым, хто прыглядаўся да нашага жыцьця, той ня можа ня прызнаць і ня адзначыць таго, што у значнейшай меры гэта ёсьць рэзультат працы вашых паслоў!

I ня толькі пашырылась сьвядмасьць унутрэньняя. Спрва беларускага руху **выйшла цяпер ужо з межаў нашае бацькаўшчыны**,—яна стала спрвай межнароднай. Аб нас і нашым руху ведаюць і гавораць у-ва усім сьвеце. Беларускія паслы прыймалі удзел у межнародных канфэрэнцыях. Паслы Тарашкевіч, Ярэміч і Рагуля няраз выежджалі у нашых нацыянальных справах за граніцу. А найбольшае значэньне у гэтым сэнсе мела утварэньне меньшасьцевай часопісі „Natio“, якая выдаецца у Польшчы і у якой стацьці аб нашых справах друкуюцца на чатырох мовах: польскай, французскай, нямецкай і англійскай. З гэтай часопісі увесь сьвет чэрпае інфармацыі аб гэтым руху. У утварэньні гэтай часопісі ад нашага „Беларускага Клюбу“ прыймаў чынны удзел пасол Ярэміч.

Падраховываючы усе сказанае, што павінны мы прызнаць і што адзначыць? Ня лоўка гаварыць аб самім сабе, асабліва хваліць сябе. Але усё-ж сьмела перад Вамі мы маем права сказаць наступнае.

Наагул, можна рабіць нам закіды у тым, што мы ня тое рабілі, што трэба, ці ня умелі рабіць, — бо ішлі-ж мы у уставадаўчыя палаты яшчэ першы раз, ніхто з нас ня быў у іх, і гэта пяцёхгадовая парляментарная праца была для нас добрым унівэрсытэтам палітычнай навукі,—але ніхто ня можа закінуць нам таго, што мы гэтую працу вялі ня сумленна і ня старанна, скажу больш: не афярна!

**В. Багдановіч.**

## ЦАРКОЎНАЯ ХРОНІКА.

**Украінскі царкоўны зьезд на Валыні.** У нядзелю 15-га студня ў г. Берасьці адбыўся царкоўны зьезд прадстаўнікоў Берасьцейскага, Кобрынскага, Драпчынскага і Пружанскага паветаў. А ні архіерэяў, а ні сьвяшчэнікаў на гэтым Зьездзе ня было, былі толькі прадстаўнікі міран. Адчыняючы зьезд **п. Арцямюк** адзначыў, што павадыры зьезду зварачываліся да Палескага архіерэя Аляксандра за благаславеньням, але адказа ад яго не атрымамі.

Пасьля дакладаў доктара Рэчынскага і п. Арцемюка зьезд зрабіў некалькі пастановаў: аб багаслужэньні на ўкраінскай мове, а назначэньні на Украіну архіреаў украінцаў, аб арганізацыі ўкраінскіх царкоўных братстваў, аб перадачы кіраваньня царкоўнай маемасьці ў рукі царкоўных камітэтаў, аб падгатоўкі на Украіне пастыраў якія добра-б ведалі ўкраінскую мову. Перад пачаткам сабраньня было прапера „Отчэ наш“ а у канцы... „Заповіт Шэўчэнкі“.

**Увага Рэдакцыі.** Гэты царкоўны рух, пачаты ў мінулым годзе на Украіне доктарам Рэчынскім варт таго, каб яго разглядзець і ацаніць у асобнай стацьці што Рэдакцыя ўважае сваім абавязкам.

Пакуль у Рэдакцыі на гэта няма часу і мейсца адзначым каротка наступнае. Безумоўна гэты рух зьяўляецца рэзультатам некананічнага строю праваслаўнае царквы які ўчыніла ў праваслаўнай царкве ў Польшчы яе некананічная іерархія. У самых мэтах і імкненьнях яго ёсьць шмат праўды. Але на жаль і самі дзеячы гэтага руху адразу сталі на некананічную дарогу. Царква ня можа быць без эпіскапаў. Калі Вы свайго эпіскапа прызнаеце за некананічнага, дык зачым пасылаць да яго за благаславеньнем, а калі за кананічнага, дык ня можна без яго згоды зьбіраць царкоўных сабраньняў, бо тады гэтыя сабраньні не кананічны. Пеяньне на царкоўным сабраньні замест малітвы „Заповіта“ Шэўчэнкі (нацыянальна-палітычнай песьні) паказывае, што павадыры руху сталі як раз на такі самы неправідловы шлях, якім ішло ў свой час царскае правіцельства, ужываючы царкву ў мэтах русыфікацыі, ці цяпер польская праваслаўная іерархія, спяваючая ў царкве „Божэ цось Польска“. А, калі праўда тое, што рух гэты падтрымліваецца за срэдствы ня народныя, а са староннія крыніц, дык гэта ўжо паказывае, што нехта ўжывае царкву зусім не для царкоўных мэтаў.

**Пастрыжэньне ў манахі студэнтаў багаслоўскага факультэту.** На сьвятак у Пачаеўскай Лаўры пастрыжаны ў манахі тры студэнты багаслоўскага факультэта Варшаўскага ўнівэрсітэта: Уладзімір Нарко III курса, Антон Мартаў II курса і Мікалай Озяраў I курса. Першы атрымаў імя Філафея, другі Афанасія, трэці Ігнацыя.

**Юбілей мітр. Еўлогія.** 12—25 студня паства мітрапал. Еўлогія сьвяткуе 25-летні юбілей яго служэньня ў епіскапскім сане.

**Энцыкліка (пасланьне) Рымскага папы.** Рымскі папа нядаўна разаслаў энцykліку, якая сьведчыць нібы аб поўнай зьмене „царкоўнай палітыкі“ рымскага прэстолу. Дасюль, як ведама, рымская курыя нібы схілялася да розных спосабаў прымірэньня паміж раздзеленымі царквамі, шуканьня ўніяў у тых ці іншых формах. Новая энцыкліка дапушчае толькі поўнае падпарадкаваньне рымскаму прэстолу а розныя аб'ядананьня і збліжэньня ўважае антыкаталіцкімі

## Палітычная хроніка.

— **Рэпрэсіі мейсцовых уладаў проці Блёка.** 10-га гэтага месяца у памяшчэньне Окружнога Беларускага Выбарчага Камітэту на другі дзень пасьля таго, як да памяшчэньня той прыбіты шыльды, у Навагрудку явілася паліцыя с сябрамі магістрацкай тэхнічнай камісіі, і пад тым прэдлогам, што памяшчэньне вымагае натыхмястовага рэмонту і пагражае нябязпечнасьцю для лёкатораў, закрыла і запячатавала яго. Памяшчэньне гэта знаходзіцца у новым мураваным доме, на другім паверсі якога знаходзяцца беларуская гімназія і жыдоўскае вучылішча, а перад тым у ім быў рэстаран. Ніколі дасюль аб яго ісправунасьці жадных пытаньняў ня было. Астаецца толькі падзякаваць уладу, што яна так „шчыра“ апякуецца аб жыцьці і здароўі Беларускага Выбарчага Камітэту.

— Рэдакцыя „Сялянская Ніва“ атрымала пісьмо наступнага зьместу:

Да ведама Беларускага Цэнтральнага Аб'яднанага Выбарнага Кімітэту ў Вільні, Вострабрамская 8—1.

Вяртаючыся дамоў з Беларускага Прадвыбарнага Зьезду 28/XII 1927, мяне па дарозе арыштавалі патрулі пагранічнае стражы і загналі на стражніцу (К. О. П.). Тут мяне бадаў капраль і так моцна біў па галаве, што я амаль ня страціў прытомнасьці і змушаны быў прызнацца, што я езьдзіў на Зьезд. Пры рэвізыі забралі ў мяне: газэты „Праваслаўная Беларусь“, „Сялянскую Ніву“,

„Беларускую Крыніцу“, „Выбарныя інструкцыі“, білет на ўход і пісьмо.

Пры „баданьні“ называлі мяне камуністам, кажучы, што я служу за грошы і распаўсюджываю камуністычную літэратуру і газэты.

Са стражніцы мяне сьціравалі ў „Кампанію“ ў Дуброве, з „кампаніі“ перадалі ў „баон“ у м-ка Краснае, адгэтуль перагналі ў паліцыю тайную, а апошняя—у Староства. Староства мяне звольніла, а што далей будзе, няма ведама. Дык вось, паважаныя паслы, колькі я перацярпеў і холаду і голаду. Арыштавалі мяне 29 сьнежня, а выпусьцілі 2 студзеня. З пашанаю Я. Грышэль.

**Судзебны працес „Грамады“.** У суботу 7-га студзеня, як пішуць польскія газэты, Віленскі Акружны Суд даручыў 56 актаў абвінавачаня ўсім абвінавачаным у працэсе былой Грамады. Суд, быццам, распачнецца ў канцы лютага і працягнецца, як прыпушчаюць судовыя ўлады, каля шасьці тыдняў.

Пры даручэньні акту, часова бышыя на волі пад залогам Язэп Шнаркевіч і сьвяшчэньнік Коўш, ізноў арыштаваны.

З вастрогу адказваюць наступныя асобы:

Браніслаў Тарашкевіч, Сымон Рак-Міхайлоўскі, Павал Валошыч, Пётра Мятла (былыя паслы), Радаслаў Астроўскі (дырэктар гімназіі), Максім Бурсевіч, Фабіян Акінчыц, Язэп Шнаркевіз — па 102 арт. часьць II, 51 арт. і 110 арт. К. Карнага.

Далей: Аляксандар Коўш, Уладыслаў Новакоўскі, Антон Луцкевіч, Ян Кузьміч, Клаўдыя Гацько, Мікалай Якімовіч, Вінцусь Шушкевіч, Язэп Баліцкі, Уладзімірр Падбудзіка, Павал Драгун, Міхал Калпак, Ян Кот, Язэп Патапчук, Уладзімер Гмыр, Базыль Шкодзіч, Сьцяпан Шчыглінскі, Уладзімер Харкевіч. Стан. Янкоўскі, Аляксандар Патоцкі, Ян Гелда, Аляксандар Зданюк, Павал Беламыс, Марцін Козіч, Сымон Саванец, Павал Якубчык, Сяргей Сіняк, Міхал Яфімовіч Ігнат Шасько, Алякс. Марчык, Ант. Сакалоў, Міхал Нікіфароўскі, Канстанцін Лабуцьа, Сьцяпан Стоцік, Канстанцін Сманіла, Міхал Шапель, Ян Варанковіч, Антон Даніловіч vel Каляга, Алякс. Антановіч, Вінцусь Салыга, Вінцусь Крупіца і Ігнат Мармыш — усе па 102 арт. часьць II К.К.

Сьцяпан Куліна-Кулівоўскі абвінавачваецца па 109 арт. ч. II і III К.К.

Сьцяпан Казачонак, Міхаіл Кавалёў, Ніканор Каралевіч, Марк Каніловіч—абвінавачваюцца з арт. 102 ч. II, 49, 499, 51 і 455 К.К.

На расправу будзе паклікана 421 сьведка з боку пракуратуры і каля 1000 сьведак з боку абвінавачаных.

Акт абвінавачаньня заключае 91 старонку друку.

У складзе суду будуць: старшыня Аўсянко, судзі: Ёдзэвіч і Борэйко. Абвінавачваюць пракуроры: Прылускі і Каланскі.

Як думаюць людзі знаючыя, працэс працягнецца ня меньш 4—6 тыдняў.

**Новый урад у латвіі.** У латвіі замест урада Скунеяка ствпрыўса новы ўрад Юрашеўскага. Новы ўрад выпусьціў дэклярацыю, у якой рэклямуе свае стараньне ў зьнешняў палітыце падтрымліваць дружбу з усімі дзяржавамі, а пераважна з тымі якія, як і Латвія імкнецца да ўтрыманьня сваей незалежнасьці ў унутрэньняй палітыцэ кабінэт галоўную ўвагу будзе зварычаваць на зямельныя рэформы і барацьбу з крайнімі элементамі.

**Апазыцыя ў СССР.** Барацьба апазыцыі з урадам Сталіна ў СССР акончылася перамогай Сталіна. Маса апазыцыйна арыштавана і выслана ў Сібір. Сярод іх і Троцкі. Пры выездзе Троцкага з Масквы, яго прыхільнікі ў лічбе больш 1500 чалавек прабраліся на вагзал і зрабілі яму авацыі. Апазыцыя аднака сусім, як відаць не супакоілася і прадаўжае выражаць сваё незадаваленьне дэманстрацыямі, пратэстамі, а нават і тэрорыстычнымі актамі.

**Адозва меншавікоў у СССР.** Выканаўчы камітэт сацыял-дэмакратычнае партыі (меншавікоў) выпусьціў, ведама нелегальна — адозву ў СССР да ўсіх работнікаў, у якой між іншым фігуруюць вось якія дамаганьні для работніцкае клясы: „Свабода слова, друку, сабраньняў, грамадзкіх таварыстваў і рэлігіяў. Нятыкальнасць асабістасьці. Свабодныя пёравыбары Саветаў. Адмену сьмертнае казьні. Неадкладнае зьнішчэжэньне ГПУ і ўсіх органаў тэрору. Агульная амністыя для палітычных вязьняў. Адмена ўсіх нясудовых рэпрэсіяў. Адмена ўсіх прывілеяў для камуністычнае партыі і Комінтэрна. Спыне-

ньне субсыдыяў для гэных арганізацыяў. Свабода прафсаюзнага і коопэратыўнага руху. Свабода забастовак“.

Адозва паказывае, што перад краем і работнікам, дзякуючы тэрарыстычнай дыктатуры ўстае пытаньне: або паварот да ваеннага камунізму, або — перамога контррэвалюцыі.

**Паўстаньне ў Нікарагуа.** Ад некатарага часу ў маленькай амэрыканскаў рэспубліцы адбываюцца нялады, якія выклікае ўрад Злучаных Штатаў Паўн. Амэрыкі, жадаючы панаваць пад Нікарагуа. Паўстанцамі кіруе генерал Сандзіна. Апошнім часам амэрыканская марская пяхота, збамбардаваўшы з самалётаў паўстанскія войскі, заняля невялічкае места Вілялі. Амэрыканскае міністэрства флёту высылае ў Нікарагуа новыя сілы для падкрапленьня, амуніцыю і санітарную падмогу.

**Выбарныя сьпіскі.**

№ 1 — Беспартыйны Блёк Супрацоўніцтва з Урадам (Пілсудчыкі).

№ 2 — П. П. С. (Польская Партыя Сацыялістаў).

№ 3 — Вызваленьне (польская партыя).

№ 4 — Бунд (Жыдоўская партыя).

№ 5 — Поалей Сіон (так-жа жыдоўская).

№ 6—Украінскі Народны Саюз (родны Паўлюкевічу).

№ 7—Польская Народная Работніцкая Партыя.

№ 8—Сельроб № 1.

№ 9—Няма такога сьпіску.

№ 10—Польскае „Сраніцтва Хлопскае“.

№ 11—Манархістыя.

№ 12—Страніцтва Радыкальнае.

№ 13—Работніцка - Сялянская Еднасьць.

№ 14—„Зьвёнзак Хлопскі“.

№ 15—Польскае Страніцтва Каталіцкае.

№ 16—Польская Партыя Сацыялістаў (лявіца).

№ 17—Галіцкіх Жыдоў „Агуда“.

**№ 18—Блёк Нацыянальных Меншасьцяў.**

№ 19—Сельроб № 2.

№ 20—Расейцы.

№ 21—Народ. Польскі Блёк Працы.

№ 22—Украінская Эсэра-эсдэцыя.

№ 23—Зьвёнзак Хлопскай Еднасьці.

№ 24—Каталіцка-Народны Зьвёнзак.

№ 25—Зьвёнзак Каталіцка-Людовы.

**Наш беларускі сьпісак мае № 18, які ўвайшоў у блёк нацыянальных меншасьцяў. Гэта трэба памятаць кожнаму выбаршчыку Беларусу, каб 4 і 11 сакавіка (марца) аддаць за гэты нумар свой голас.**

## З беларускага жыцьця.

**Арышт б. пасла Рагулі.** 19-га гэтага месяца а 9 гадзіне раніцай у памешканьні Акружнага выбарнага камітэту у Навагрудку па распараджэньню пракурора Навагрудзкага Акружнага Суду быў заарыштаваны былы пасол Рагуля. Пасьля дапросу ў сьледаваценя, Рагуля быў атпраўлены ў камісарыят павятовай паліцыі. Па зпажэньні залогу 500 зл. сьледавацель звольніў б. пасла Рагулю, адабраўшы падпіску аб нявыездзе з Навагрудскага судовага вокругу. Рагулю абвінавачваюць па 129 арт. за прамову падчас мітынгу ў Навагрудку 22 траўня 1924 году. Яму пагражае цяжкая турма ад 1 да 4 гадоў. Бараніць узяўся адвакат Сьвірыд.

**Суд над б. паслом Ф. Ярэмічам.** На 28-е г. м. у Вільні ў Акружным Судзе вызначаны суд над б. паслом Бел. Пас. Клюбу п. Ф. Ярэмічам, якога абвінавачываюць за дэмонстрацыю на чэсьць кс. Гадлеўскага засуджанага за яго прамовы ў касьцеле па беларуску.

## ЗЬМЕСТ.



Рэдактар-выдавец: Л. Голад. Друк. ім. Ф. Скарыны, Людвісарская 1.